

## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

Клімавічы наведалі студэнты з Нарвэгіі і Швэцыі, будучыя журналісты. Праграма іхняга гасьцяваньня ў нас была вытрыманая ў лепшых савецкіх традыцыях. Ім паказалі мясцовую самадзейнасьць, павазілі па гаспадарках, папярэдне "прыбраўшы" тыя месцы... Перад вачыма студэнтаў паўстала краіна, тыповая ў сваёй "афрыканскай саўковасьці". Здаецца, будучыя замежныя журналісты апынуліся ў ролі пралетарскага пісьменьніка М.Горкага, якога правезьлі па савецкіх канцлягерах, дзе ён убачыў шчасьлівае жыцьцё зьняволеных. Пра што і напісаў... Невыпадкова, відаць, тутэйшая раёнка абавязалася надрукаваць студэнцкія ўражаньні на сваіх старонках.

У Магілёве адбылося паседжаньне прэс-клюба, наладжанага Міжнароднай фінансавай карпарацыяй (МФК). Яна вядомая тым, што наладжвае ў постсавецкіх краінах рынкавыя праекты. Яны, гэтыя праекты, мусяць паказваць грамадзтву, бізнэсоўцам і самой дзяржаве, што трэба рабіць дзеля разьвіцьця эканомікі. МФК ёсьць структурай, якую стварылі Міжнародны Валютны Фонд і Сусьветны Банк. На паседжаньні абмяркоўвалася, наколькі сёньня рынкавыя каштоўнасьці ў нас спраўджаныя, наколькі задзейнічаныя рынкавыя мэханізмы. Начальніца "рынкавага" аддзелу аблвыканкаму Ксенія Аўдзіевіч падчас свайго выступу стварала ўражаньне калі ня рынку, дык імклівага руху да яго. Прысутныя прадпрымальнікі й журналісты толькі з разуменьнем усьміхаліся: якраз зараз ідзе кампанія па перарэгістрацыі суб'ектаў гаспадараньня. І вось, у выніку "рынкавых памкненьняў" улады, гэтых суб'ектаў стала ўжо ўдвая меней, чым было ў 1996 годзе.

Што датычыцца харчаваньня ў вясковых школах, дык тут у нас асабліва цяжкае становішча. Калі аблвыканкамаўская камісія праверыла слаўгарадзкія СШ, то ўсяго толькі пацьвердзіла ўжо вядомае: крадуць і падманваюць. Напрыклад, у сталоўцы тамтэйшай СШ №1, паводле праверкі, не хапала прадуктаў аж на 40 мільёнаў рублёў з гакам. У Лапатіцкай СШ не дакладалі ў порцыі, замест соку выдавалі гарбату й г.д. Канешне, меры пакараньня былі прынятыя – адных дырэктараў звольнілі, іншых папярэдзілі, павароў аштрафавалі. Атрымліваецца, аднак, што калі ў сталоўцы няма нічога, акрамя гарбаты, а грошай на сок ніхто ня даў, то дзякуй і за гарбату. Калі выдаткавана мала мяса, то "недаўкладаньні" падаюцца натуральнымі. Менш было б крадзяжоў, калі б па-іншаму будавалася ўся сыстэма дачыненьняў чалавека зь дзяржавай. Пакуль чалавек – не галоўная каштоўнасьць у дзяржаве, камісіі будуць і надалей знаходзіць парушэньні, якіх менш ніколі ня стане.

У Бабруйскім тэатры драмы і камэдыі імя В.Дуніна-Марцынкевіча мясцовыя вяскоўцы адзначылі "прафэсійнае сьвята" працаўнікоў сельскай гаспадаркі. Была ў гэтым нейкая сымболіка, бо беларуская вёска сёньня – гэта і драма, і камэдыя адначасна. Калі больш дакладна вызначыць жанар, то, верагодна, трэба казаць пра трагіфарс. Сапраўды, калі людзі жывуць без заробкаў па паўгады, працуюць на тэхніцы, што развальваецца амаль на вачох, – тое трагедыя. А вось калі ўлады кажуць пра нейкі ўздым і мітычныя дасягненьні, пра нейкіх віртуальных "перадавікоў", – тут ужо цынічны фарс і каляcальны падман. Таму неістотна, што там прамаўлялі ў тэатры сельгасначальнікі, і што ім адказвалі заранёў прызначаныя "перадавікі".

Упраўленьне фінансовых расьсьледваньняў выкрыла продаж буйной партыі свіньняў "налева". Клічаўскія саўгасы "Ольса" і "Дабраволец" прадалі прыватнай асобе статак колькасьцю 420 жывёлаў. Што ў тым дрэннага? Продаж адбыўся легальна, гаспадаркі ўсё зафіксавалі ў сваёй дакумэнтацыі. Аднак, як высьветлілася, сёньня пакупнік павінен быць зарэгістраваны як падаткаплацельшчык. Між тым дзяржаве саўгасы здалі па некалькі тонаў мяса, і пакуль цалкам не атрымалі ад яе грошай. А прыватная асоба разьлічылася адразу ж, і нават па больш высокіх коштах, чым дзяржаўныя. Цяпер і грошы тыя адбяруць, і кіраўнікоў пакараюць. А вёска застанецца гібець...

У нашым дзяржунівэрсытэце выступаў зь лекцыямі Марэк Дамброўскі, адзін з чальцоў каманды славутага польскага рэфарматара Лешэка Бальцэровіча. Ён з калегам, магістрам эканомікі Рафалам Антчакам, распавядаў студэнтам, як Польшча за некалькі гадоў здолела выйсьці з багны эканамічнай і палітычнай крызы, у якую зацягнуў яе камунізм. Распавялі яны пра "шокавую тэрапію", пра зьмяненьні макраэканамічных паказчыкаў, пра паляпшэньне жыцьцёвага ўзроўню канкрэтных людзей. Нашыя студэнты мусілі толькі слухаць і параўноўваць. Шкада, што гэтыя параўнаньні відавочна не на карысьць Беларусі.

*Да сустрэчы, Сымон Глазштэйн.*

# Цяжкі лёс Адраджэньня

***У гэты дзень чатыры гады назад у краіне зьдзейсьніўся Акт, які ў дэмакратычным асяродзьдзі і эўрапейскіх структурах атрымаў вызначэньне дзяржаўнага перавароту. Наступствам рэфэрэндуму-96 аб "зьменах у Канстытуцыі" і згоды тагачаснага кіраўніцтва Вярхоўнага Савету (С.Шарэцкі і В.Новікаў пры ўдзеле старшыні Канстытуцыйнага Суда В.Ціхіні) пад націскам начнога "крамлёўскага палітычнага дэсанту" у складзе Сялязьнёва, Чарнамырдзіна і Строева сталася адкліканьне Вярхоўным Саветам подпісаў пад дэпутацкім ініцыяваньнем імпічмэнта прэзыдэнту і, назаўтра, разагнаньнем законна абранага вышэйшага заканадаўчага органу краіны. З тае пары распачаліся многія праблемы ў нашай краіне, што цягнуцца да сёньня. Пра некаторыя зь іх разважае наш аўтар.***

Канец XX стагодзьдзя прынес нямала сюрпрызаў як скептыкам, так і рамантыкам. У шэрагу глябальных пераменаў лёс Беларусі – далёка ня самая прыкметная зьява, але наш, у нечым арыгінальны, вопыт можа стаць цікавым для іншых паняволеных народаў. Хоць сам тутэйшы "экспэрымэнт" яшчэ далёка не завершаны.

Ягоны пачатак прыйшоўся на канец 80-х – першую палову 90-х гадоў і быў названы нацыянальным Адраджэньнем. Асаблівасьць яго ў тым, што Адраджэньне разумелася ў першую чаргу як палітычны працэс, як вяртаньне да традыцыяў ВКЛ і БНР. Тое, што ВКЛ не было чыста беларускай краінай, а БНР засталася хутчэй сымбалічнай, чым рэальнай дзяржавай, надавала адраджэнцам рамантызму, натхняючы старадаўнімі рэмінісцэнцыямі, але не гарантавала рэальных палітычных выгодаў.

Палітычная незалежнасьць ёсьць вышэйшая, апошняя ступень нацыянальнага самасьцьвярджэньня, якой звычайна папярэднічае вялікая інтэлектуальна-культурніцкая праца, шырокі сацыяльны рух і сур'ёзныя эканамічныя падставы. А на Беларусь незалежнасьць звалілася зьверху, амаль "па разнарадцы". Таму пытаньні кшталту: "А навошта яна, вашая незалежнасьць, патрэбная?" альбо "Ці дасьць яна больш каўбасы?" – вельмі дакладна характарызавалі непадрыхтаванасьць народу да самой ідэі дзяржаўнага сувэрэнітэту. Незалежнасьць Беларусі далася не як заслужаны вынік народных намаганьняў, а як аванс, які яшчэ трэба асэнсаваць і адпрацаваць.

Ненатуральнасьць беларускай сытуацыі спарадзіла й віхлясты шлях Адраджэньня, калі аптымізм-91 скончыўся драмай-96. Амаль заканамэрна, бо па клясыфікацыі чэскага філёзафа М.Гроха, у руху нацыяў да сувэрэнітэту выдзяляюцца тры этапы: элітарна-творчы, адукацыйна-масавы і ўласна палітычны. Дык вось, на Беларусі другі этап, які яшчэ далёка ня быў завершаны, раптоўна, воляй улады, вымушаны быў спыніцца, а да трэцяга справа, як бачым, не дайшла зусім.

Палітычнае фармаваньне грамадзтва распачалося адначасова з адукацыйна-асьветніцкім пэрыядам, а таму "перашкодай" у нацыянальным усталяваньні сталася мова. Яе рэжым "ліквідаваў" праз сумна вядомы рэфэрэндум-95, умела скарыстаўшы на той час даволі негатыўнае стаўленьне да мовы вялікай часткі насельніцтва. Гэтаму фэномэну ёсьць тлумачэньне: за шмат гадоў савецкай улады беларушчына канчаткова была загнаная ў літаратурна-фальклёрную "вясковую" рэзэрвацыю, па дарозе згубіўшы прыкметы сваёй насамрэч элітарнасьці, сучаснасьці і сацыяльных пэрспэктываў. Для паспалітага люду яна стала атаясамлівацца зь "дзярэўняй" і эстэтычным прымітывам. А напачатку 90-х алергія да мовы зьвязвалася з палітыкай БНФ, супраць якой уся прэса, тэлебачаньне, улада, спэцслужбы вялі масіраваны несумленны наступ. Аднак жа менавіта БНФ шматкроць павялічыў колькасьць носьбітаў беларушчыны ў родным Краі. У той жа час мова, жорстка "прыкрутая" да палітыкі, не магла расьці вольна і шырока, а новых абсягаў для росквіту і пашырэньня зоны ўплыву і ўжываньня была пазбаўленая.

Як ні дзіўна, прыход да ўлады А.Лукашэнкі і сыход беларушчыны ў падпольле ў стратэгічным пляне выглядае карысным. Дзесяцігадовай даўніны шлях прымусова-адміністрацыйнай беларусізацыі (а менавіта так гэта было пададзена ўладай грамадзтву) у сытуацыі антыбеларускіх настрояў і нізкага сацыяльнага рэйтынгу мовы й ня мог стаць плённым. Сёньняшняе ж непрыняцьце любым нармальным чалавекам таго "калгасна-саўковага" стылю жыцьця, які цяперашні рэжым навязвае грамадзтву, прыкметна пашырае шэрагі прыхільнікаў і нават адэптаў беларушчыны. Усё часьцей мова атаясамляецца з урбаністычнай (гарадзкой) культурай і сучасным мастацтвам, зь перадавой навукай і элітарнай адукацыяй, з прагрэсыўнымі сацыяльнымі і палітычнымі тэхналёгіямі. Прыхільна ставяцца да мовы, згодна апошняму перапісу насельніцтва, больш за 40%. Пакуль – ня большасьць, але вельмі важка, што ў гэтых "працэнтах" шмат сучаснай, выхаванай, адукаванай моладзі. Яна валодае альбо цікавіцца інфармацыйна-кампутарнымі тэхналёгіямі, шоў-бізнэсам, сацыяльна-гуманітарнымі і духоўна-рэлігійнымі праблемамі. А чым больш беларушчына будзе распаўсюджаная сярод рокераў і хакераў, мэнэджэраў і сьвятароў, журналістаў і актывістаў недзяржаўных арганізацыяў, тым больш у яе шанцаў ня проста выжыць, а вярнуцца туды, дзе ёй месца ад Бога – у штодзённае нармальнае жыцьцё прыстойнага грамадзяніна. Спачуваньне і чаканьне (бо пэрыяд нацыянальнай няпэўнасьці яшчэ можа цягнуцца колькі гадоў) тут не дапамогуць. Ратаваньне ў тактыцы "малых справаў" – у сваім доме і сям'і, у прафэсіі і сяброўскім асяродку, у хобі і на экране кампутару, у царкве і касьцёле. Паўсюднае ўжываньне мовы і дэманстрацыя прыстойнай беларушчыны ёсьць той тактыкай, якая ў сёньняшняй сытуацыі найбольш эфэктыўная і мэтазгодная. Урэшце рэшт, тое і адбываецца вакол ўжо некалькі гадоў, аднак ня ў тых маштабах, як таго хацелася б...

І ўсё ж, становішча не такое безнадзейнае, як 20 год назад, хаця і не такое рамантычнае, як 10 год таму. Думаю, што "халодны душ-95-96" і спароджаныя ім зазімкі апошніх гадоў не прайшлі для грамадзтва дарма. І ў нашае жыцьцё рана ці позна вернецца вясна. А да яе трэба падрыхтавацца значна лепш, чым да кароткай і нявыкарыстанай папярэдняй. Тым больш, што яна можа стацца апошнім эпізодам нацыянальнага Адраджэньня ў сучаснай эўрапейскай гісторыі... Як гаворыцца, дай-та Бог!

***В.АЎРАМЕНКА***

# З надзеяй на разуменьне і салідарнасьць

Учора магілёўскія прыватныя прадпрымальнікі, большасьць якіх непасрэдна гандлюе на гарадзкіх рынках, правялі аднадзённы страйк. Зачыненыя шапікі, незанятыя палаткамі кірмашовыя пляцоўкі і разгубленыя пасярод гэтага выпадковыя пакупнікі нагадалі мінулагоднія "кірмашовыя карцінкі". Тады, дарэчы, выступы прадпрымальнікаў за свае правы скончыліся частковай перамогай "сярэдняга клясу" над уладай. Частковай, бо асноўная праблема не была вырашаная тады і наўрад ці будзе вырашаная цяпер. Праблема ж у тым, што ўлада, усьлед за сваім правадыром, ня першы год дэманструе зайздросную ўпартасьць у сваёй непавазе да вольнай працы.

Гэтым разам прыватнікі патрабуюць карэкціроўкі чарговага ўрадавага рашэньня аб новым мытным падатку на тавары з так званых "трэціх краінаў". Пры ўмове ягонага захаваньня кошты на нашых кірмашах рэзка падскочаць уверх практычна на ўсе тавары, акрамя расейскіх. Тавары ж зь іншых краінаў (паколькі далёка ня ўсё, чым цікавяцца пакупнікі, вырабляецца і прывозіцца з Расеі) цяпер мяркуецца абкладаць дадатковай мытнай аплатай. Новы парадак да таго ж дае кантрольным ведамствам дадатковыя магчымасьці націску на прыватнікаў, штрафаваньня іх й нават ліквідацыі (добра, што пакуль не фізычнай).

Заўважым, што прыватнікі з дапамогай страйку ня толькі выступілі ў абарону сваіх праваў, але й сумленна папярэдзілі грамадзтва аб магчымым (вымушаным) падвышэньні кірмашовых цэнаў. Урад сьцьвярджае пра сваю няспынную клапатлівасьць аб народзе...

Напярэдадні ўчорашняга страйку прадпрымальнікі паінфармавалі ўладу аб тым, што не адступяць. Яны гатовыя, калі патрабаваньні ня будуць прынятыя, прадоўжыць скаардынаваныя па ўсёй краіне акцыі пратэсту, разьлічаныя на некалькі дзён, тыдняў і нават месяцаў.

Прадпрымальнікі пры гэтым чакаюць разуменьня і салідарнасьці з боку грамадзянаў.

***Уласная інф.***



